# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым провьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана кожнага нумару 10 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 150 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: 50 м. за радок пэтыту (на апошн. стр.). |
|---|---|---|

Год I. Вільня. Пятніца, 9-га верасьня 1921 г. № 11.

## Нарада ў Аддзеле Прэсы.

У пятніцу 2-га гэтага верасьня за подпісам Начальніка Аддзелу Прэсы і Вераў п. Ч. Янкоўскага было разаслана рэдакцыям газэтаў гэткае запрашэньне:

„Згодна з жаданьнем, выказаным Часоваю Ўрадуючаю Камісіяй на ўчарашнім пасяджэньні, вельмі прашу Шан. Пана прыбыць заўтра, ў суботу, 3-га верасьня а 12-й гадзіне ў палудзень да Аддзелу Прэсы і Вераў (Міцкевічава вул., 9) дзеля паразуменьня са мною ў справе палітычнага кірунку, пропагаванага ў рэдагованай Шан. Панам часопісі“.

У назначаны час, у суботу, 3-га верасьня, ў кабінэт начальніка аддзелу прэсы зьявіліся прадстаўнікі рэдакцыяў гэткіх газэт: „Krynica“, „Nowiny Wileńskie“, „Unzer Tog“, „Głos Litwy“, „Vilnius“, „Unzer Frajnd“, „Беларускі Звон“ і „Vilniaus Garsas“.

Пан Янкоўскі заявіў сабраным, што на апошнім пасяджэньні Часовае Урадуючае Камісіі было пастаноўлена ў далейшым не талераваць у прэсе выступленьняў проці ўраду Сярэдняе Літвы. Ня ўходзячы ў абгавор пытаньня аб крыніцы ўлады Сярэдняе Літвы, газэты павінны лічыцца з фактам істнаваньня, як дзяржавы Сярэдняе Літвы, так і яе ўраду. Нельга-ж дапусьціць, каб у той час, калі Сярэдняя Літва знаходзіцца фактычна ў становішчы вайны з Незалежнаю Літвою, ў Вільні выдаваліся газэты, пропагуючыя ідэю іншае дзяржаўнасьці; гэткія выступленьні будуць лічыцца антыдзяржаўнымі. Пры гэтым п. Янкоўскі саслаўся на прыклад Францыі, дзе дапушчаецца крытыка гэткіх інстытуцыяў, як напр. Сэнат і навет карыкатуры на галаву дзяржавы, але не дапушчаецца адкіданьне самое ідэі францускай дзяржаўнасьці.

Прадстаўнік газэты „Głos Litwy“ спытаўся, ці зьяўляецца, ў гэткім разе, антыдзяржаўнаю пропаганда ідэі інкорпарацыі Сярэдняе Літвы ў Польшчу, на што адтрымаў адказ, што гэтае пытаньне можа цікавіць толькі, няпрысутных на гэтым пасяджэньні, прадстаўнікоў польскае прэсы, а таму не падлягае тутака абгавору. Тады тым самым прадстаўніком пытаньне было формулявана йначай: калі якая-нібудзь з беларускіх, жыдоўскіх, ці літоўскіх газэтаў здумае зьмяніць свой кірунак і стаць на пункт гледжаньня пропагаваньня ў Сярэдняй Ліцьве польскае дзяржаўнасьці, дык будзе гэта антыдзяржаўным, ці не.

П. начальнік аддзелу прэсы адказаў, што стылістычна пытаньне формулявана надта добра, але адказаць на яго ён ня можа, заўважыўшы, што ён зьяўляецца толькі пасрэднікам паміж Часовую Урадуючаю Камісіяй і органамі тутэйшае прэсы й яго заданьне—толькі акуратная перадача думкаў і пажаданьняў, выказаных на апошнім пасяджэньні Часовае Урадуючае Камісіі.

Прадстаўнік „Vilnius“ заявіў, што прыклад Францыі не зьяўляецца паказальным, бо Урадуючая Камісія сама сябе лічыць і называе часоваю й пытаньне аб аканчальным сконструіраваньні ўлады і дзяржаўнасьці на тэрыторыі Сярэдняе Літвы—справа будучыны, і дзеля гэтага, нікому не павінна забараняцца вольна выказавацца аб даным пытаньні. Новыя трэбаваньні, выстаўленыя аддзелам прэсы азначаюць сабою шаг наперад па дарозе сьцісканьня волі тутэйшае прэсы, пагаршаючы істнаваўшыя дасюль умовы.

Прадстаўнік „Unzer Tog“ гаварыў пажыдоўску цераз запрошанага п. Янкоўскім тлумача. Ен сказаў, што ствараецца палажэньне, пры якім перад тутэйшаю прэсаю стаіць альтэрнатыва: альбо закрыцца, альбо перавярнуцца ў інформацыйныя лісткі, ў лепшым выпадку, з дадаткам аддзелу літэратуры, поэзіі й мастацтва; п. начальнік аддзелу прэсы, паміж іншым, заявіў, што ў Часовай Урадуючай Камісіі, як яму здаецца, пануе настрой зьвесьці да мінімуму сыстэму штрафаў і закрыцьця газэт, дык як-жа прытарнаваць да гэтага факт аштрафаваньня ў адміністрацыйным парадку, пасьля апошняга пасяджэньня Часовае Урадуючае Камісіі, газэты „Unzer Tog“ за крытыку дэлегацыі Польскае Рэспублікі пры Урадзе Сярэдняе Літвы, па сутнасьці якое крытыкі газэце нельга было нічога закінуць. У ранейшыя часы, пры істнаваньні папярэдняе цэнзуры, гэткага гатунку рэпрэсіяў ня было, а дзеля гэтага, калі прадстаўленыя тутака газэты знайдуць магчымым выходзіць далей, дык няма, пры утвораным палажэньні іншага выхаду, як стварэньне папярэдняга органу, цэнзуруючага—што можна апублікаваць і чаго нельга.

П. Янкоўскі аб'ясьніў, што, як журналісты, ён згодзен з тым, што новае палажэньне пагаршае умовы істнаваньня тутэйшай прэсы, бо за апошняга паўгода сытуацыя зьмянілася ў горшы бок, дзеля таго, што бяз конца зацягнуліся перагаворы, дзякуючы непрымірымай пазыцыі, занятай Літвою.

Прадстаўнік газэты „Nowiny Wileńskie“ выказаў, як паляк, сваё наймацнейшае зьдзіўленьне, што на гэтай нарадзе няма прадстаўнікоў польскае прэсы, навет такіх газэт, якія, як і „Nowiny Wileńskie“, стаяць за згоду Літвы з Польшчаю, як напр. „Gazeta Krajowa“. Стваряецца, дзеля гэтага, ўражаньне аднабокасьці й няроўнасьці. У выпадку полемізаваньня з органамі прэсы, што стаяць за інкорпарацыю Сярэдняе Літвы ў Польшчу, адна старана можа перайсьці за адзін бок, а другая старана ня можа перайсьці за процілежны бок.

Пастаўленае пытаньне засталося без пярэчаньня.

Гэтак сама і прэдстаўнік „Krynicy“ не адтрымаў раз'ясьненьня на выказаныя ім сумлеўкі, што дапушчаецца і што не, датычна крыніцаў і самой дзяржаўнасьці Сярэдняе Літвы, напрыклад, ці зьяўляецца антыдзяржаўнаю пропаганда вечнага істнаваньня Сярэдняе Літвы, як самастойнае дзяржавы й расшырэньня яе граніцаў.

Прадстаўнік „Vilnius“ заявіў, што пажадана, каб компэтэнцыя па справах прэсы была сконцэнтрована толькі ў Аддзеле Прэсы, каб не стварыць падвойнасьці, пры якой адміністрацыйны аддзел Часовае Урадуючае Камісіі, без Аддзелу Прэсы накладае штрафы і кары на тутэйшую прэсу, тым часам, як практыка мінулага паказавае, што непасрэдны разбор справы ў Аддзеле Прэсы прыводзіць да выясьненьня непаразуменьняў, пры чым прывёў красамоўны прыклад.

П. Янкоўскі абяцаў сваё поўнае памаганьне ў правядзеньні гэтае меры.

Прадстаўнік „Беларускага Звону“ заявіў, што былі выпадкі закрыцьця органаў тутэйшае прэсы бяз ніякай мотывіроўкі, калі навет, пасьля факту закрыцьця, за ёю зьвярталіся ў адпаведныя інстытуцыі. Беларуская прэса, прызнаючы дасюль, як факт, істнаваньне Сярэдняе Літвы, абходзіла маўчаньнем пытаньне аб яе ўрадзе, бо беларусы ў ім не прадстаўлены й за яго адпавядальнасьці не нясуць. Сам Галава гэтай дзяржавы гэн. Жэлігоўскі прызнае сучаснае палажэньне Сярэдняе Літвы, як у палітычным, так і ў эканамічным сэнсе, ненормальным і часовым. Граніцы Сярэдняе Літвы дасюль аканчальна не азначаны і наагул гэтая дзяржава ня выказвае сэпаратызму. Гэтае палажэньне выклікае тактыку маўчаньня.

На пытаньне, ці зьяўляецца гэткая тактыка антыдзяржаўнаю, п. Янкоўскі даў адкідальны адказ.

У працягу дэбатаў выясьнілася, што сярод сабраных прадстаўнікоў прэсы пануе думка, што пры створаным палажэньні, тутэйшая прэса будзе магчы істнаваць толькі пры устанаўленьні папярэдняе цэнзуры.

Дзеля абгавору выстаўленых пытаньняў п. Янкоўскі думае склікаць новую нараду.

На адбытай нарадзе зьвярталя на сябе ўвагу адсутнасьць прадстаўнікоў газэтаў: „Der Emes“, „Musu Balsas“ і „Jednaść“.

---

У сераду, 7 верасьня, ў кабінэце Начальніка Аддзелу Прэсы адбылася другая нарада з прадстаўнікамі тутэйшых часопісяў. На гэтай нарадзе былі прадстаўнікі газэтаў „Jednaść“ і „Musu Balsas“. Як паясьніў п. Начальнік Прэсавага Аддзелу прадстаўнікі гэтых часопісяў былі запрошаны й на першую нараду, але адбылі яе крыху раней за іншых.

На апошняй нарадзе выясьнілася, што Час. Урадуючая Камісія не замераецца ўвадзіць папярэднюю цэнзуру.

## Пляны знайшліся...

Урэшце скончыцца брыдкая гісторыя з «цэляй Конрада» аб якой пісалася ў нас раней. Знайшліся старыя пляны базыльянскіх муроў з 1808, 1814 і 1835 гадоў. На ўсіх гэтых плянах прыбудоўкі, ў якой цяпер месьціцца праслаўленая каморка, а дзе некаторыя тутэйшыя гісторыкі і археолёгі з такою ўпартасьцю хацелі бачыць цэлю Конрада,—зусім няма. Значыць,—далікатна кажучы, —ўся бура ў шклянцы вады!

Дарма проф. Пігонь пісаў сваю брашуру, дарма п. Студніцкі бурыў думкі польскага грамадзянства проціў беларусаў. А наскольки гэтыя думкі былі ўзбураны сьведчыць прыкладам той факт, як вялікі і шчыры сымпатык беларусаў проф. Масоніус так моцна падчырківаючы сваё gente Ruthenus адмовіўся навет выкладаць на беларускіх вучыцельскіх курсах толькі таму, што й нага яго, кажа, ня можа пастаяць у базыльянскіх мурох, дзе беларусамі ў такі нягодны способ зьняважаецца памяць вялікага Міцкевіча. Errare humanum est: кожны можа памыліцца. Нельга было-б крыўдзіцца на паноў Пігоня і Студніцкага, што яны памыляюцца. Тым гарэй для іх! Але яны з свае памылкі, зробленай мо' (мы хочам верыць) бяз усякае злой думкі, зрабілі далёка йдучыя палітычныя вывады і — брыдка казаць—плюнулі ў

Ня будзем, аднак, марнаваць часу, а скажам тое, што выйшла з усяе, як раней думалі, хітрае легэнды п. Студніцкага, пацьверджанай аўторытэтнымі вучонымі.

А выйшла тое, што легэнда застаецца легэндаю і вечнаю ўласнасьцю саміх яе аўтораў, на якую ўласнасьць пэўна ўжо ніхто болей не спакусіцца.

Усё няпраўдзівае адмятаецца праўдаю і ўсе выдумкі выпаўзаюць наверх пасьля выведаваньня справы.

Камісія, зложаная з палякоў, сярод якіх быў і сам аўтор дзіўнае легэнды п. Студніцкі — з аднаго боку і беларусаў (як гэта п. Студніцкі адважыўся быць разам з імі!)—з другога боку, устанавіла, што п. Студніцкі крыху перасаліў. Бо гістарычны пакой быў недзе ў іншым месцы, якое цяпер, пасьля розных перабудаваньняў муроў, застаецца пустым, незабудованым.

Як кажуць, ёсьць навет і стары плян ранейшага выгляду муроў, які сьведчыць аб гэтым зусім ясна.

Далей казаць няма чаго

Цікава толькі з якім імем можа зьвязацца цяпер новая „гістарычная" каморка?

Ці не ўзбагаціць яна нашу мову й ці не паможа тут чым-нібудзь спрытны да мастацкіх твораў п. Студніцкі з сваімі аднадумцамі?

Хіба, што так.

**Звончык.**

* * *

Я помню, ноч была... Маўчалі ў садзе дрэвы,
У бліскучай новай вопратцы вясны,
А зьнеткуль, з мглы, здалёк нясьліся хваляй сьпевы,
Будзілі ў сэрцы жаль і зноў далей плылі.

Ужо адцьвілі тады ігрушы й абляцелі,
І вецер кветак шоўк разьвеяў і разьнёс.
Здавалась, зоры мне тады ў душу глядзелі,
Блішчэлі ярка так, бы кроплі нечых сьлёз.

Чаму я гэта ўсё сягоньня ўспамінаю:
І гэту ноч, і сад, і ў небе зор агні,
І гэты дзіўны сум, што сэрца мне сьціскае
З тэй ночы ціхае так часта ўва ўсе дні?

Тады, у тую ноч я вышла ў цень празрысты
І стаўшы, помню я, задрала галаву.
Мільёны срэбных зор свой бляск таемны й чысты
Лілі на плечы мне, на сьцежкі, на траву...

І стала прыкра мне ад зор, што сэрца бачаць,
Ад зор, што ўніз глядзяць на сонную зямлю,
Што ў сіняй глыбіне дрыжаць і плачуць - плачуць,
Мо' плачуць нада мной, навошта я люблю?

**Н. Арсеньнева.**

## Выбіраньне банкнотаў.

„Польская Краёвая Пазычковая Каса" ў паразуменьні і са згодаю Міністэрства Фінансаў—выбірае з абегу гэткія банкноты 1-га выпуску, шэрыя:

20 марковыя з датаю „Варшава 17 мая 1919 г." з патрэтам Касьцюшкі,

5 марковыя з датаю „Варшава 17 мая 1919 г." з патрэтам Главацкага,

1-на марковыя з датаю „Варшава 17 мая 1919 г." з малюнкам Белага Арла.

Вышейпаказаныя банкноты будуць прымацца дзеля заплаты ўва ўсіх Аддзелах Польскай Краёвай Пазычковай Касы, Урадах і Касах Скарбовых, Чугуначных і Паштовых, так сама і ў касах усіх дзяржаўных інстытуцыяў толькі да 30 верасьня 1921 году.

Ад 1 кастрычніка перастае быць абавязковым прыйманьне гэтых банкнотаў для платы. Аднак могуць яны быць у Аддзелах Польскае Краёвае Пазычковае Касы зьменены на банкноты II выпуску, кошты магчымых паштовых перасылак банкнотаў падаюць на кліента.

Аддзелы Польскае Краёвае Пазычковае Касы абавязаны мяняць вышэйсказаныя банкноты толькі да 31 сьнежня 1921 году. Пасьля гэтага дня канчаецца абавязак аплаты гэтых банкнотаў.

## Палітычная хроніка.

*Пятніца, 2 верасьня.*

— З Варшавы паведамляюць, што меставыя ўраднікі адтрымалі дабаўкі, ўраўніваючыя пэнсію, катарая ім была абяцана яшчэ раней і катарая ня можа быць меншай за пэнсію некваліфікованага рабочага.

— Проф. Ашкіназі падаў Радзе Лігі Народаў ноту, у якой зьвяртае ўвагу на права Польшчы прымаць, на аснове мірнага трактату, учасьце ў Радзе Лігі.

— Верхня-Сьлезкія газэты паведамляюць, што справа В. Сьлезіі можа быць вырашана толькі ў канцы верасьня, а зачнецца паседжаньне і рэзультаты яго будуць абвешчаны толькі ў канцы лістапада.

— У зьвязку з апошнімі забастоўкамі ў Польшчы, урад выдаў да грамадзян адозву, ў якой сьцьвярджае учасьце ў забастоўках прышлага элементу і заклікае жыхароў да барацьбы з агентамі, варожымі да Польшчы, даводзячы што ўсе проціўрадовыя выступленьні будуць тушыцца вельмі сурова.

— У самым бліжэйшым часе будзець абмен нотамі паміж Польшчай і Норвэгіяй, мэтай якіх будзець навязяньне нормальных консульскіх, гандлёвых і водных зносін.

— „Kurjer Poranny" адкідае чутку быццам кабінэт Вітоса выходзіць у адстаўку.

— З Парыжа паведамляюць што ў аўторак у міністэрсьцьве заграінчных справаў адбылося паседжаньне пад кіраўніцтвам міністра здароўя, для разгляду справы аб помачы галадаючым у Расеі. На паседжаньні зроблена пастанова ўвайсьці ў перагаворы з Ліцьвінавым у Рызе, каб як найлепей абгаварыць спосабы і шляхі дастаўкі харчоў жыхаром Расеі.

— Парыская прэса вітае перагаворы паміж Лушарам і Ратэнау, якія вяліся ў Вісбадэне і дайшлі да паразуменьня. На аснове іх немцы павінны заплаціць Францыі за страты натураю.

— Канцлер Вірт прыняў у панядзелак дэлегацыю ад дзьвюх соцыялістычных партыяў Рэйхстагу, якая прасіла канцлера зрабіць заходы каб урад вёў энэргічнае змаганьне проціантыдэмократычнай і антырэспубліканскай агітацыі.

— „Франкф. Цайтунг" паведамляе, што паміж Нямеччынай, Літвой і Лацьвіяй зроблена чугуначная конвэнцыя беспасрэдніх зносін.

*Субота, 3 верасьня.*

— Французская прэса оптымістычна разглядае працу конфэрэнцыі Рады Лігі Народаў і мае надзею, што Гюмансу, ўрэшце, ўдасца

# Усебеларускі Зьезд 1917 г.

**(Рэфэрат чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 27 кастрычніка 1920 г.).**

Веча — старадаўняя Беларуская Улада. — „Рэвалюцыйная Грамада" 90-х г.г. мінулага веку, з 1902—03 г. „Соцыялістычная Грамада". — Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны. — „Соцыялістычная Грамада" 1917-га году ў Менску. — „Нацыянальны Камітэт" у Менску ў сакавіку 1917 г. — Красавік 1917-га году. „Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў". — 3-я сэсія Цэнтральнае Рады ў кастрычніку 1917 г. і пастанова аб утварэньні Нацыянальна - Даяржаўнае Інстытуцыі. — Прызнаньне гэтай пастановы Беларускімі Вайсковымі Зьездамі: а) Заходняга фронту ў Менску, б) Паўночнага фронту ў Віцебску, в) Румынскага фронту у Адэсе, г) Паўднёвага фронту у Кіёве. — Зьезд у Маскве бежанскіх Беларускіх Арганізацыяў, настаўніцкія зьезды і коопэратарскія. — „Вялікая Беларуская Рада" і пры ёй аўтаномная „Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада". — „Усебеларускі Зьезд" 18 (5) сьнежня 1917 г. — „Совет Народных Комиссаров Западной Области и фронта". — Пастанова Зьезду аб падзеле на фракцыі: а) раскол — правыя і левыя, б) зямлячествы і злучэньне Зьезду, в) „Областной Белорусскій Комітет при Всероссійском Совете Крестьянских Депутатов з Петраграду". — Нацыяналізацыя Менскага Шляхоцкага дому. — Разгон Зьезду бальшавікамі 30—31 (17—18) сьнежня 1917 г.: а) Тэзісы абвешчаньня Беларускай Рэспублікі (дарадчы пакой), б) Прамова Начальніка Менскага Гарнізону Крывашэіна і атака „Перваго Революціоннаго Полка" на Зьезд, в) Аблога Шляхоцкага дому (Беларускага Нацыянальнага Дому), у якім засядаў Зьезд у часе разгону. — „Рада Зьезду і Выканаўчы Камітэт".

Адзін малады наш гісторык дзеліць гісторыю Беларусі на чатыры пэрыяды: Полацкі, Літоўска-Беларускі, Польскі й Рускі.

Да гэтых чатырох пэрыядаў сучасныя нам дні дапісваюць ужо **пяты** пэрыяд роднай гісторыі—пэрыяд барацьбы за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Тэмаю нашаю зьяўляецца пачатак гэтага пятага пэрыяду беларускай гісторыі—тая крыніца, адкуль ён пачаўся й мы пастараемся падзяліцца тымі асабістымі ўспамінамі, якія ёсьць у памяці, бо ў поўнай меры ахапіць гэтае заданьне няма ніякай магчымасьці тут, на чужыне, ня маючы ўсіх, патрэбных дакументальных і іншых пісаных даных.

* * *

І вось дзіўная рэч: калі кінемся думкаю ў сівую нашу мінуўшчыну, калі ад сказанага намі пятага пэрыяду Беларускай гісторыі перакінемся да першага—Полацкага пэрыяду, дык пабачым, што ў абодвых гэтых страшэнна далёкіх адзін ад аднаго, пэрыядах ёсьць нешта агульнае, аднолькавае. Аднолькавасьць гэтая—нішто іншае, як **усенароднасьць улады**; ў Полацкі пэрыяд улада Беларускага Народу спачывала ў яго самога, ў асобе **Ўсенароднага Веча**. Зямля Полацкая кіравалася гэтым Усенародным Вечам, або Сходам, на Сход гэты зьбіралася досіць вялікая грамада людзей і агулам рашала ўсе дзяржаўныя справы. Полацкага гарадзкога веча слухаліся, так званыя, „прыгарады", альбо ваколіцы, ясьней кажучы, вечы ваколічныя, прыгарадныя, провінцыяльныя.

Сьмешна было-б гаварыць аб **усенародным** вечы Беларускага шматмільённага Народу ў нашыя дні, бо часы зьмяніліся, мільёнаў людзей ня можна склікаць на адзін агульны сход—на усенароднае веча—бо людзі размножыліся, засялілі вялізныя абшары, набудавалі моц гарадоў, мястэчак і вёсак.

Усе культурныя народы выказваюць сваю законадаўчую волю, сваю ўладу ў нашыя дні праз сваіх выбарных, што засядаюць у Соймах, або парлямэнтах, а грунтоўныя законы (або дзяржаўная констытуцыя) выробляюцца Устаноўчымі Соймамі, зложанымі, гэтак сама, з выбарных усяго народу.

Гэткім чынам, у нашыя часы захоўваецца, ўсё-ж такі, **ўсенародны** характар установчае і законадаўчае ўлады.

Не закінуў гэтага прынцыпу й наш Беларускі Народ, пачынаючы пяты пэрыяд свае гісторыі, калі, дзякуючы вясьнянай расейскай рэвалюцыі 1917 году, ён пачуў волю й патрэбу самому каваць сваю долю і сабраўся, як яго полацкія продкі, ў асобе сваіх выбарных на **Ўсебеларускім Конгрэсе**, або **Зьезьдзе** 5 сьнежня (ст. стылю) таго самага 1917 году.

* * *

Адкуль-жа йдуць карэньні ідэі самога Ўсебеларускага Зьезду? Якія арганізацыі згуртаваліся ў гэтым Вялікім Сходзе Беларускага Народу, як нарасталі сьвядомыя нацыянальныя сілы, якія выклікалі самую патрэбу Зьезду і якое значэньне мае гэты Зьезд у нашай гісторыі?

На гэтыя пытаньні пачнём адказаваць, азірнуўшыся далёка назад на тыя часы, калі па ўсёй бышай Расеі загарэўся вызваленчы рух, або рэвалюцыйная работа, якая падточвала, як чарвяк, шматвекавы застой расейскага царызму.

Чацьвёрты,—рускі,—пэрыяд Беларускай гісторыі ёсьць самаўладнае панаваньне расейскіх цароў над Беларусьсю; край наш падзелены на такія самыя губэрні, як і чыста-велікарускія землі; ўсюды йдзе гвалтоўнае выцісканьне ўсяго беларускага ў нашым краі, ўсё перакручваецца на маскоўскі лад; цэрква, школа, адміністрацыя носіць звычайны расейскі характар, беларускаю застаецца толькі цёмная сялянская, хлебаробная маса, сыны якой, прайшоўшы ў расейскіх школах маскоўскую вырабу, робяцца „панамі" ў вачох простага народу, гавораць маскоўскаю моваю й адшчапляюцца ад роднага народу, яго быту, звычаяў, інтарэсаў.

Але ня ўсіх можа назасёўды адарваць ад свайго народу чужацкая выраба.

Ўжо ў 90-я гады мінулага сталецьця гуртуецца грамадка сьвядомых беларускіх людзей, якія ясна зразумелі, што, ня гледзячы на расейскую, ці іншую вырабу, яны былі й застаюцца дзяцьмі таго народу, зямля якога зьяўляецца іх роднаю зямлёю, а народ, іх спарадзіўшы—іх родны народ. Завязваецца гурток „Беларуская Рэвалюцыйная Грамада", які, павялічыўшы свае сілы за ня надта доўгі час, ў 1902—3 годзе прымае назву „Беларускае Соцыялістычнае Грамады".

Грамада гэта разумела ясна, што толькі праз рэвалюцыю ў Расеі, праз поўнае разьбіцьце сілы чужацкага царызму, Беларусь выйдзе на вольны шлях свайго адраджэньня.

Рэвалюцыйна-Соцыялістычная Грамада раскідала шмат адозваў на беларускай мове ў вялікіх местах і ў самых глухіх куточках Беларусі ў часе першае расейскае рэвалюцыі ў 1905—1906 г.г., пабуджаючы народ да адкрытага выступленьня проці тагочаснага царскага рэжыму.

Але рэвалюцыя 1905—6 г.г. не ўдалася. Паўстаньні на Беларусі, як і ўва ўсёй Расеі, былі крывава патушаны. Аднак нейкая здабыча ад гэтай няўдачнай рэвалюцыі мусела дастацца й на нашу долю. Зьявілася ўсё-ж такі, да тых часаў забароненая, маг-

пагадзіць Польшчу і Літву. Праца конфэрэнцыі пачалася 29|8. Першаю для разбору стаіць справа В. Сьлезіі, а другою—Віленшчыны. Прадстаўнікамі Літвы на Жэнэўскай конфэрэцыі зьяўляюцца: Мілош—прад. літоўскага ўраду ў Францыі і Сідзікаўскас—прад. Літвы ў Швэйцарыі. 29|8 выехаў з Коўна да Жэнэвы міністар фінансаў Гальванаўскас, прадстаўнік Літвы пры Лізе Нацыяў.

— Эканамічныя нарады Лацьвіі, Эстоніі і Літвы адбудуцца ў бліжэйшыя часы. Абгавараваоцца будзець патрэбнасьць коордынацыі эканамічнай палітыкі.

— Амэрыканскі Прэзыдэнт Гардынг выбран Старшынёю Амэрыканскага Чырвонага Крыжа і заняў гэтую пасаду, пасьля таго як быўшы прэзыдэнт Вільсон не згадзіўся прыняць на сябе абавязкі Старшыні Ам. Чырв. Крыжа.

— Учора на мітынгу Варшаўскія трамвайныя працаўнікі не згадзіліся на 10% падвышку пэнсіі.

— Міністэрства быўшае Пруской часьціны Польшчы, абвясьціла суровы наказ, якім забараняецца вываз з Польшчы розных прадуктаў больш чым на 1000 мар. Хто нарушыць гэта, той будзець караны судом на 15 гадоў цяжкай працы і, апрача гэтага, грашовай карай у ліку 2-х мільёнаў марак.

— Гарадзкія працаўнікі Львова адтрымалі падвышку пэнсіі на 215% больш як гэта было ў студзені.

— Вадавецтва газэты „Народ“ паведамляе што выхад газэты часова спынены.

— Сёньня ў Празе адбылося адчыненьне асеньняга кірмашу. Таргі былі адчынены пры ўдзеле прэз. Масарыка.

— Учора адчыніўся ў Карлсбадзе ўсясьветны сыяністычны конгрэс пад кіраўніцтвам вядомага І. Ротшыльда.

— За выкрыцьце разбойнікаў, забіўшых лідэра ням. цэнтру Эрцбэргэра, нямецкі ўрад назначыў грашавую награду ў ліку 100 тысяч ням. марак, а прокуратура ад сябе назначыла 20 тыс. ням. марак. Да гэтага часу не ўдалося выкрыць разбойнікаў, бо забойства зроблена на палітычным грунце.

— Мірны трактат паміж Вэнгрыяй і Амэрыкай падпісаны.

— Петраград абвешчан на абложным палажэньні, туды выехаў сябар Маскоўскага совнархозу (Рада Народнай Гаспадаркі) — Мілюцін. Троцкі робіць у Кіеве вялікія манэўры, куды нібыто выкліканы й Тухачэўскі.

— Лацьвійскі прадстаўнік у Расеі ўчора падаў Савецк. Ураду ноту, ў якой просіць звальненьня заарыштованых у Яраслаўлі сяброў рээвакуацыйнае камісіі.

— З мэтаю азнаёміцца з эканамічным становішчам Лацьвіі туды выехала чэская місія ў ліку 5 сяброў. У склад місіі ўвайшлі ўраднікі міністэрстваў гандлю і прамысловасьці.

*Нядзеля, 4 верасьня.*

— На паседжаньні Рады Лігі Народаў Буржуа паведаміў прадстаўнікоў прэсы, што справа В. Сьлезіі будзе разглядацца незалежна ад паглядаў заінтарасованых старон і што гэтая справа даручана 4 сябром Лігі Народаў якія яе і павінны разабраць. Да гэтага дадаў, што Ліга Народаў зьнімае з сябе адпавядальнасьць, але будзе сьлядзіць за іх працай. Усе кругі аб'яднаных дзяржаваў надта задаволены такой пастаноўкай справы. Нарэшце Буржуа вытлумачыў спосабы, якія будуць ужывацца пры зносінах з заінтарасованымі старонамі — Польшчай і Немцамі.

— Пры помачы войска варшаўскія вузкакалейкі пачалі свой рух, але ў вельмі абмежаваным разьмеры.

— Канцлер Вірт паведаміў корэспондэнтаў, што ў зьвязку з забойствам Эрцбэргэра можа быць конфлікт паміж Баварыяй і Рэсп. Нямеччыны, у тым выпадку калі Баварыя ня спыніць монархічнае агітацыі.

— Рада францускіх міністраў пад кіраўніцтвам прэзыд. Мільерана разьбірала спосабы помачы галодным Расеі і чытала ліст, пасланы да Чычэрына ў справе гарантыяў сябром камісіі міжнароднай помачы, едучым ў Расею для азнаямленьня з сытуацыяй на месцы.

— Уся Савецкая прэса памясьціла вялікія артыкулы ў справе арышту і зачыненьня камітэту помачы галадаючым Расеі, даказваючы контр-рэвалюцыйнасьць працы Камітэту. На пленарным паседжаньні Радаў меў прамову Троцкі, Каменеў, Уншліхт, якія нападалі на Польшчу, ўспамінаючы пры гэтым Савінкова. Ухвалена раней зробленая рэзалюцыя абвінавачаньня Камітэту помачы галодным.

— Зноў шмат афіцэраў Балтыцкага флоту перавезена ў Маскву. Заарыштованых матросаў інтэрнавалі тут-жа ў горддзе.

— Маскоўскі корэспондэнт „Чыкаго Трыбьюн“ паведамляе, што Масква ўжо трэці дзень як ахоплена полымем, гэта самае пацьварждаюць сябры Камісіі помачы галодным. Савецкае пасольства ў Бэрліне аб пажары, пакуль што не адтрымала ніякіх вестак.

— У Бэрліне адбылася вялікая рэспубліканская дэмонстрацыя. Прэзыдэнтам паліцыі былі прыняты меры асьцярожнасьці. Маніфэстанты ішлі з чырвонымі і чорна-чырвона-жоўтымі штандарамі, дабіваючыся зьліквідаваньня існуючага ўраду і роспуску Рэйхсвэру, а гэтак сама і ахраннай паліцыі. Благіх здарэньняў ня было.

*Панядзелак, 5 верасьня.*

— У Рыгу прыбыў нямецкі карабель, які прывёз 9.000 мяшкоў рысу і 2.000 мяшкоў цукру для расейскіх галодных. Транспорт належыць Амэрыканскаму Чырвонаму Крыжу і амэрыканскай адміністрацыі помачы галодным.

— З прычыны паніжэньня платы амэрыканскія чугуншчыкі пачалі забастоўку; бастуе каля 400.000 чалавек.

— Маршалак Фош 22 кастрычніка мае выехаць у Злучаныя Штаты.

— Стварэньне португальскага кабінэту даручана Антону Граніо.

— Агульная лічба расейскае камуністычнае партыі — 193.000. У тым ліку 80% мужчын. Па профэсыях: 45% работнікаў. Неналежных да профэсыянальных саюзаў 48%. Паводлуг веку: да 20 гадоў—6%, да 30 г. — 47%, больш. за 30 г.— 37%. Сярод мужчын ёсьць людзей з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй— 12%, сярод кабет—31%. Сяброў, належачых да партыі перад рэвалюцыяй—11%, рэшта, або 89% уступілі ў партыю па рэвалюцыі. З агульнае лічбы сяброў партыі 37% працуе ў савецкіх урадах, 22% служыць у чырвонай арміі, 11%—у прамысловасьці, 20% майстроў, у транспорце—7%. у сельскіх гаспадарках—5%, ў камітэтах партыйных—4%, ува ўрадах проф. саюзаў—3%.

— З прычыны паўстаньня, ў Індыі на шмат новых вокругаў пашыраны стан аблогі.

Прадстаўнікі Нямеччыны падпісалі кантракт з прадстаўнікамі Сав. Грузіі на эксплёатацыю грузінскіх лясоў.

— За першыя паўгода бягучага 1921 году ў Чэхаславакіі вываз перавышае ўвоз на 1,5 мільярда.

— У Бэльфасьце (Ірляндыя) паўтараюцца шмат у якіх пунктах гораду спатычкі ірляндзкіх незалежнікаў з ангельскай паліцыяй. Нормальнае жыцьцё зьнікла. Панцырныя самаходы круцяцца па месьце.

---

чымасьць пачаць беларускі друк і сілы „Соцыялістычнай Грамады“ былі скірованы на культурную працу.

Пачала выходзіць у Вільні першая беларуская газэта „Наша Доля“, хаця, пасьля першых чатырох нумароў, яна была закрыта ўсясільнаю ўладаю верных царскіх слугаў. «Нашу Долю» замяніла ўсім вядомая «Наша Ніва», якая выходзіла аж да 1915 г. і зьбірала вакол сябе ўсё новыя й новыя сьвядомыя беларускія сілы.

* * *

На ўвесь сьвет разьлёгся магутны гром Вялікай Вайны ў 1914 годзе.

Усе ведалі, якія страшэнныя ахвяры нясе кожнаму народу вайна і загадзя пачалі рыхтавацца да падмогі гэтым ахвярам.

Заснаваўся ў Вільні й „Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны“.

А вайна рабіла сваё. Хутка яна перакінулася сваім цяжарам на зямлю беларускую і ўвосень 1915 г. дакаціліся нямецкія войскі да Вільні. Ў пачатку верасьня расейцы пакінулі Вільню. Беларускі камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны частку сваіх сяброў пакінуў у Вільні, другая частка (найбольш вайсковыя) перакінулася ў Менск.

Ня вельмі вялікі гурток—гэты «Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны» быў, немаль што, адзінаю беларускую арганізацыяй, якую застала ў сакавіку 1917 г. ў Менску Вялікая Расейская Рэвалюцыя.

Ўрачысты дзень 6 сакавіка 1917 г., ў які адбылася агульная, нябывалая дасюль, маніфэстацыя ў Менску, быў адсьвяткованы й беларусамі, аб'яднанымі ў „камітэце помачы ахвярам вайны“. Беларускі штандар, тады яшчэ чыста белы, відаць было сярод чырвонага мора рэвалюцыйных штандараў нялічаных арганізацыяў, што паўсталі дзякуючы рэвалюцыі. На беларускім штандары з аднаго боку былі толькі два моцныя, многазначныя словы «Жыве Беларусь» (гражданкаю) і з другога боку — „Witajma Wolu narodu“ (лацінкаю).

Гэтымі двама, ня надта громкімі, лёзунгамі быў зазначаны пачатак новага—на наш лік—пятага пэрыяду гісторыі Беларускага народу.

Ясна, што Камітэт помачы ахвярам вайны, як арганізацыя, заложаная, дзеля спэцыяльных, філёнтропічных мэтаў, ня мог далей іграць якую-небудзь палітычную ролю, але ён воляю лёсу стаў тым цэнтрам на Бацькаўшчыне, вакол якога пачалі складацца й беларускія палітычныя думкі; сьвядомыя сілы беларускія расьлі не днямі а гадзінамі і ўсім стала ясным, што трэба, не чакаючы заснаваць паважную палітычную нацыянальную арганізацыю.

Па старой традыцыі пачала зьбірацца й набываць новай сілы „Беларуская Соцыялістычная Грамада“, якой праз год суджана было ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі сказаць адважна новае, стаўшае лёзунгам нашых дзён, слова — «незалежнасьць Беларусі».

Не марудзячы, ў сакавіку месяцы 1917 г. пасьля конфэрэнцыі сьвядомых беларусаў, паўстае „Беларускі Нацыянальны Камітэт“ у Менску з вялікім абшарнікам Раманам Скірмунтам на чале.

Ці падходзіла, ці не асоба Скірмунта да яго ролі—старшыні Нацыянальнага Камітэту аб гэтым кожны судзіць пасвойму.

На нашае зданьне—Скірмунт ніякае шкоды беларускаму руху тады прынесьці ня мог, а наадварот: яго імя, як вялікага земляўласьніка, можа й без яго на гэта жаданьня, зрабілася страшэнна популярным, хаця популярнасць гэту кругом талкавалі не на карысьць беларускага руху.

„Дазвольце,—чуваць было ўсюды,—як можа вялікі абшарнік вясьці за сабою сярмяжны беларускі народ, як можа пан быць мужыцкім павадыром?“

Насколькі сам Скірмунт дамагаўся гэтага павадырства відаць з таго, што ён ані ня ўпіраўся, калі яму было проста сказана, што яго пэрсона не саўсім на месцы ў ролі Старшыні Нацыянальнага Камітэту.

Каб ня спыняцца доўга на пэрсонах, мы адно можам толькі сказаць, што, зьявіўшыся ў кожнага на вуснах, імя Скірмунта ў той, ці іншы бок,—гэта ня так на гэты час было важна,—разносіла ўсюды хоць і сярдзітыя галасы пра беларускі рух і рух гэты сам сабою пашыраўся й мацнеў, ня гледзячы на ўсялякія пэрсональныя погаласкі.

Першыя мітынгі, скліканыя ў Менску Нацыянальным Камітэтам, ня гледзячы на гэткага „буржуазнага“ старшыню яго, набіралі поўныя салі народу. Вялізарны сход у кіно-тэатры „Гігант“ на Захараўскай вуліцы вынес аднагалосна рэзалюцыю аб поўнай аўтаноміі Беларусі. Цікава, што на гэтым мітынгу яшчэ зьліваліся, калі так можна сказаць, абодва полюсы Камітэту: старшынёй мітынгу быў сам Скірмунт і тут-жа гарачыя прамовы запушчаў будучы бальшавік—Фабіян Шантыр.

Калі Скірмунт, быўшы сябар, калі не памыляюся, 1-е Гасударсьцьвенае Думы, ў кожнае слова стараўся ўлажыць праграму, дык Шантыр сьпяваў гымны рэвалюцыі проста за тое, што яна ўжо сталася, што яна ёсьць. Абодва яны былі тады разам, за адным столікам прэзыдыуму.

Праца Нацыянальнага Камітэту не магла абмяжоўвацца толькі аднымі менскімі мітынгамі. Як і Камітэт Помачы, Нацыянальны Камітэт хутка скончыў сваю ролю, даўшы месца болей моцнай і шырокай арганізацыі.

За вельмі кароткі час Нацыянальны Камітэт зрабіў вялікую справу тым, што вёў самую шырокую рэестрацыю ўсіх беларускіх арганізацыяў, якія толькі дзе засноўваліся на вялізных прасторах быўшае Расеі. Арганізацыі гэтыя закладаліся ўсюды, дзе толькі былі, закінутыя лёсам, беларусы. Самы моцны рух быў сярод войска. На усіх тагочасных расейскіх фронтах, апрача Каўкаскага, былі беларускія арганізацыі, якія давялі справу ў канцы 1917 году да франтавых беларускіх зьездаў. У Маскве утварылася моцная арганізацыя „Беларуская Народная Грамада“, ў Петраградзе—цэнтр „Соцыялістычнае Грамады“, існавала там старая арганізацыя „Загляне сонца і ў наша ваконца“ і розныя беларускія рабочыя арганізацыі.

Менш, як праз месяц працы Нацыянальнага Камітэту ў Менску, выявілася, што яго рамкі надта вузкія дзеля таго, каб ахапіць і сцэнтраваць у сабе тагочасны беларускі рух. Насьпела гарачая патрэба скліканьня конфэрэнцыі ўсіх зарэестрованых у Нацыянальным Камітэце арганізацыяў.

Конфэрэнцыя гэта зьбіраецца й выбірае „Цэнтральную Раду Беларускіх арганізацыяў. Улетку 1917 году адбываюцца дзьве сэсіі Цэнтральнай Рады і на 3-яй, апошняй яе сэсіі ў кастрычніку прымаецца пастанова аб патрэбе утварэньня нацыянальна-дзяржаўнай інстытуцыі.

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

*Аўторак, 6 верасьня.*

— Віленская справа ў Лізе Народаў адложана да 12 верасьня.

— Парыскі карэспондэнт варшаўскіх газэт паведамляе, што Гюманс у размове з польскімі й літоўскімі дэлегатамі запрапанаваў замест ранейшага фэдэрацыйнага проекту, злучэньне Вільны з Коўнам пад адным урадам з адным соймам ў Вільні.

— Лацьвійскі прэм'ер Мэеровіч заявіў, што ў інтарэсе Лацьвіі ляжыць прылучэньне Вільні да Літвы. У выпадку status quo Лацьвія застанецца нэўтральнаю, а ў выпадку ўдару Польшчы на Літву выкажа па меры магчымасьці падмогу братэрскаму літоўскаму народу. Саюз Літвы й Лацьвіі трэба лічыць адбытым фактам.

— Польскі міністар фінансаў Стэчкоўскі заявіў вусна аб адстаўцы. Пісьменнай заявы, пакуль што, не падаў.

— На пасяджэньні варшаўсікх дамовых даглядчыкаў (дворнікаў) пастаноўлена з 6 верасьня забаставаць, калі дамаўласьнікі ня згодзяцца на варункі проф. саюзу.

— Паводлуг вестак з Баранавіч, у Менску стоўпілася шмат уцекачоў. Дзецям даюць па фунце хлеба на дзень. Дарослым не даюць нічога. Бяда сярод уцекачоў вялізарная.

— На апошнім пасяджэньні польнага штабу чырвонае арміі пастаноўлена рэарганізаваць штаб чырвонай арміі, паменшыўшы компэтэнцыю асобных камандзераў.

— Праз Рыгу выслана дасюль у Расею 22 вагоны амэрыканскіх харчоў.

— У зьвязку з раскрытым згаворам у Петраградзе расстраляна апошнімі часамі 61 чалавека, арышты йдуць далей.

— Паводлуг дадатковых вестак у процібальшавіцкім згаворы ў Петраградзе быў замер нападу на Анцэлевіча й Горкага. Цэнтр згавору знаходзіцца нібыто ў Парыжы, маючы на чале: гэн. Юдэніча, Уладзімерава, Струвэ, Грыма і Кокоўцава.

*Серада, 7 верасьня.*

— Сэкрэтарыят Лігі Народаў агаласіў паведамленьне, што Гюманс выпрацаваў новую праграму разрашэньня Віленскай справы. Разам з вырашэньнем лёсу Вільні маюць быць урэгуляваны адносіны Літвы і Польшчы. Тэкст проекту, які ў некалькіх пунктах розьніцца ад ранейшага, паданы да ведама дэлегатаў, якія перад 12 г. месяца маюць паведаміць Гюманса, ці згаджаюцца на яго прыняцьце.

— У прайшоўшым месяцы ў Рызе гасьціў літоўскі міністар заграічных справаў Пурыцкіс. Візыт яго быў зусім тайным. Найскарэй за ўсё, абмаўлялася справа лацьвійска-літоўскай ваеннай канвэнцыі. Рыжаская прэса, ў зьвязку з гэтым пабытам аднагалосна трэбуе, каб урад выйшаў з нэйтралітэту ў польска-літоўскай спрэчцы.

— У Бэрлінскім прэзыдыуме паліцыі быў дапрошаны падхарунжы Кіршвіц, абвінавачаны ў забойсьцьве Эрцбэргэра. Ен быў за 36 кілёмэтраў ед месца праступку. Пакінуў вастрог у канцы чэрвеня г. г. і зьяўляецца вінавайцаю 1-га няўдачнага нападу на Эрцбэргэра. Фігура Кіршвіца саўсім адпавядае прыметам забойцы Эрцбэргэра, паданым адным з відавочных сьведкаў.

*Чацьвер 8 верасьня.*

— Міністар фінансаў Польшчы Стэчкоўскі падаў на рукі прэм'еру Вітосу заяву аб адстаўцы.

— У Пазнані забаставалі на эканамічным грунце будаўляныя рабочыя.

— У Гішпаніі магчыма рэвалюцыя. З усіх бакоў краю йдуць весткі аб процімонархічных рэвалюцыйных дэмонстрацыях.

— На пасяджэньні Рады Народных Камісараў Троцкі жадаў кантролі над дзеяльнасьцю амэрыканскай адміністрацыі, збоку савецкае ўлады. Гэтыя варункі ня прыняты дзеля апалітычнасьці арганізацыі.

— На пасяджэньні Лацьвійскага Чырвонага Крыжа пастаноўлена затрэбаваць ад Саветаў гаранты незачэпнасьці пэрсоналю і, ў залежнасьці ад бальшавіцкага адказу, весьці справу далей.

# Замежныя весткі.

## Падмога галодным.

Па ініцыятыве Беларускай Місіі ў Бэрліне тамака склікаецца сход грамадзян Беларусі дзеля стварэньня камітэту падмогі галодным у Беларусі. У адозьве, выпушчанай часовым камітэтам помачы, гаворыцца, што голад паступова распаўсюджваецца на Савецкую Беларусь і пагражае ёй нябывалаю катастрофаю.

## Беларускія студэнты ў Чэхаславакіі.

Чэхаславацкі Урад выказвае шчырыя адносіны да беларускае вучнёўскае моладзі і нядаўна назначыў стыпэндыі 20 студэнтам-беларусам Пражаскага Унівэрсытэту.

(Белпрэсбюро).

## Беларусь, як гаспадарчая адзінка.

За апошні час у Савецкай Расеі заўважаецца думка пераглядзець пытаньне аб межах Савецкай Беларусі. Уціснутая ў 6 наветаў Меншчыны, Савецкая Беларусь выяўляе сабою надта калекае зьявішча. За межамі Савецкай Беларусі апынуліся непадзельныя часткі беларускага гаспадарчага арганізму: Віцебшчына, Смаленшчына і Магілёўшчына. Сілаю акалічнасьцяў савецкая ўлада змушана паступова папраўляць зробленыя ёю абмылкі й расшырыць граніцы Беларусі да яе натуральных эканамічных і этнографічных межаў. Прыбыўшы нядаўна ў Маскву, сябар беларускае рады народных камісараў і старшыня рады народнай гаспадаркі Беларусі, Вайнштэйн у гутарцы з супрацоўнікам часопісі „Экономическая Жизнь“ заявіў, што ён прыехаў з задачаю аб'яднаць гаспадарчую галіну Беларусі з «заходнімі губэрнямі». Вайнштэйн сказаў: «Мы лічым, што асаблівасьці гаспадарчага жыцьця, гаспадарчага укладу заходніх губэрняў і Беларусі (? Рэд) дыктуюць патрэбу іх гаспадарчага аб'яднаньня, пры чым лічу натуральным цэнтрам гэтага аб'яднаньня Беларусь, паміж іншым, Менск».

(Белпрэсбюро)

## Нота Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі да Савецкага Ураду.

Урад Бел. Народн. Рэспублікі зьвярнуўся да Савецкага Ураду з нотаю з прычыны таго, што ў Беларусі здараюцца пагромы. У ноце гаворыцца, што хваля пагромаў першы раз разьліваецца па Беларусі пры савецкім рэжыме. Савецкі ўрад ня прымае патрэбных мераў дзеля барацьбы з пагромным рухам. Наадварот сав. ўрад забараняе стварэньне жыдоўскіх аддзелаў самаабароны і ў дадатак перакінуў у Беларусь кавалерыю Будзеннага. Гэтыя аддзелы з паўдзікіх людзей у свой час арганізоўвалі пагромы на Украіне; цяпер ёсьць неадмоўныя доказы, што пагромы ў Магілёўскай губ. арганізованы кавалерыяй Будзеннага і дэзэртырамі з чырвонай арміі. Толькі ў блізкіх да заходняе граніцы мясцох опэруюць рэшткі балахоўцаў, але й процi іх сав. ўлада ня прымае патрэбных мераў. Урад Б. Н. Р., змушаны сілаю пакінуць бацькаўшчыну, з болем прыслухоўваецца да бедаў, што адбываюцца на бацькаўшчыне. Урад Б. Н. Р. прапануе сав. уладзе пазволіць бесьперашкоднае распаўсюджваньне ў Беларусі антыпагромнае літэратуры на беларускай мове. Урад Б. Н. Р. гатовы таксама энэргічна выступіць проці пагромнай агітацыі і паслаць у Беларусь сваіх эмісараў, якія працавалі-б пад кантролем сав. ўлады і не вялі-б ніякай антыкамуністычнай прапаганды. Калі сав. ўрад адкіне гэту прапазыцыю, дык на яго ляжа адпавядальнасьць за кроў, якая льецца цяпер у Беларусі.

(Белпрэсбюро).

# З ПРЭСЫ.

## Аб долі ўцекачоў.

Выходзячая ў Рызе, расейская газэта «Новый Путь“ у артыкуле С. Ціханава „Бѣженцы и голодъ“, паміж іншым, гаворыць:

„Палітыка царскае стаўкі і жахі вайны выгналі сотні тысячаў людзей з наседжаных месцаў. З сваім дамовым скарбам уцякалі яны на Усход, ад'значаючы свой шлях крыжамі магіл. Шмат хто з іх не дачакаўся магчымасьці павароту ў родныя месцы. Усе яны ў доўгія і цяжкія гады вайны і бадзяньня пагублялі і той убогі скарб, вывезены імі сьпяшаючыся ў часе «эвакуацыі». Нядружалюбствам, а то і проста нянавісьцяй сустрачалі часта прыходцаў тубыльцы, вінавацячы іх у тым, што яны прыносяць з сабою дарагоўлю і іншыя няшчасьці. Прыладзіцца да новага месца і новых варункаў змог толькі дзе-хто з іх, найбольш спрытныя — а ўся маса ўцекачоў ледзь жыла галодная, абадраная, часта бяз стрэхі, ўсімі думкамі імкнучы на радзіму, якая рысавалася ім амаль што раем.

Уцекачы ня ўмелі й не маглі асвоіцца з тубыльцамі, бо, дзякуючы вайне, яны траплялі не ў багаславенную Аркадыю і не ў „Амэрыку“. Кожная вестачка аб магчымасьці павароту на радзіму зьнімала іх з месца і кідала на Захад: па жалезных і іншых дарогах цягаліся яны ўзад і ўперад, разрушаючы і аб'ядаючы ўсё на сваім цярністым шляху.

Голад у жытніцы Расеі—ў Паволжжы першаю справай наваліўся са ўсею цяжасьцяй на уцекачоў, якія там знаходзіліся, як на частку насяленьня, найменш забясьпечаную матар'яльна і зусім зразумела, што гэтыя людзі, нічым не зьвязаныя з зямлёю, пакрыўджанаю ў гэтым годзе засухаю, першыя пачалі ўцякаць, сеючы паніку сярод мясцовага насяленьня“.

Зьвязваючы, гэткім чынам, вострасьць уцекачоўскага пытаньня з падмогаю галоднаму расейскаму насяленьню, „Новый Путь“ піша далей:

«Для Сав. Расеі справаю самай першай важнасьці зьяўляецца незабаўнае перасяленьне з галодных районаў дзяцей і ўцекачоў. У гэтым апошнім могуць Сав. Расеі зрабіць сапраўдную падмогу суседнія з Расеяй краі, павялічыўшы да максімуму прыняцьце сваіх грамадзян з ахопленых голадам мясцовасьцяў Расеі».

Гаворачы, што гэта было-б «спаўненьнем элемэнтарных абавязкаў у адносінах да сваіх уласных грамадзян» і што пры павароце ў родныя месцы не павінны ставіцца ўцекачом ніякія перашкоды, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасьці, газэта далей заяўляе:

«Нажаль, ня ўсё, што ў гэтым кірунку маглі-б зрабіць суседзі Сав. Расеі—робіцца імі. Польскія прадстаўнікі ў маскоўскай рэпатрыяцыйнай камісіі заўзята трэбуюць роўнамернага адпраўленьня ўцекачоў з усіх районаў Расеі і ствараюць цэлы рад затрудненьняў пры прыняцьці ўцекачоў на істнуючых двох перадатачных станцыях: у Стоўбцах і Роўным. Калі і ў далейшым падмога, якую Польшча дакларавала даць галодным, будзе выказавацца ў затрудненьні рээвакуацыі ўцекачоў з галодных районаў, дык ад гэтае падмогі, не паздаровіцца галадаючым, а ў першую чаргу; польскім (? Рэд.) уцекачоўскім масам у Паволжжы».

Далей аўтор артыкулу «Бѣженцы і голодъ» робіць вывад, што сапраўдная падмога галоднаму насяленьню Расеі збоку яе суседзяў можа быць падана:

„1) прыпыненьнем рээвакуацыі ўцекачоў з месцаў, спагадных у сэнсе ўраджаю і концэнтраваньнем увагі рэпатраяцыйных органаў на ўцекачох з галадаючых мясцовасьцяў; 2) адкрыцьцем па магчымасьці большае колькасьці прыняткова-прапушчальных пунктаў (гэта датычыць галоўным чынам Польшчы) і бесьперашкодным прыняткам усіх уцекачоў, маючых на гэта законнае права, бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі“.

# Жыцьцё провінцыі.

## Барацьба з беларускай школай у Валожынскім павеце.

Валожынскі школьны інспэктар ужывае ўсе спосабы каб зьнішчыць беларускую школу. Усе беларускія вучыцялі, апрача сэмінарыстаў, з чэрвеня месяца звольнены. Нязвольненых змушае ехаць у Кракаў і залічыў вучыцялямі польскіх школ. Звольненых з беларускіх школ вучыцялёў за тое, што ня знала польскай мовы, як патрэбна беларускаму вучыцелю, прыймае на пасады вучыцялёў польскіх школ. Вучыцель А. Р., які быў звольнены ў чэрвені з пасады вучыцеля беларускае пачатковае школы ў вёсцы Сенькіняты, Трабскае воласьці, ужо назначаны тым самым інспэктарам у польскую школу і навет, каб заахвоціць, на гэта іншых, выплачана гэтаму пану пэнсія з усім, дадаткамі за той час, які ён лічыўся звольненым. Але гэта ўсё нічога ў параўнаваньні з апошнім крокам палітыка-інспэктара. Ён апавясьціў што ў польскіх школах Валожынскага павету будуць вучыці... парасейску. Але мусі ен ня сам да гэтага дадумаўся. Ці не навучыла яго жонка павятовага старасты, па загаду якой усё робіцца ў павеце? На старасту яна мае уплыў, як жонка, а на інспэктара, як яго фактычны сэкрэтар. Тое, процiў чаго так крычалі летась, у чым вінавацілі беларускіх вучыцялёў, зьбіраюцца рабіць самі. І хто, думаеце, будзе вучыць беларускіх дзяцей парасейску? Пазнанчыкі, якіх паназначалі ў тыя вёскі, дзе былі беларускія школы.

Добрыя й тутэйшыя польскія вучыцелькі, іх найбольш со skonczyli trzy klasy szkoły ludowej, а гэныя яшчэ мацнейшыя.

З назначаным у м. Юрацішкі мне прышлося пагаварыць. Каб паглядзець з кім я маю шчасьце гаварыць, спытаў я яго, ці пан не знаёмы, часам, з творамі Жан-Жака Руссо? Дастаў адказ, што пра

такога ў Пазнані ен і ня чуў. І такія вось вучыцялі будуць вучыць беларускіх дзяцей парасейску (!?).

**Заяц.**

## Хто хітрэйшы?

**Забрэзкая і Валожынская валасьці Валожынскага павету.**

Дагэтуль яшчэ сяк так паводзілася нам, беларускім грамадзянам у польскім калідоры. Калі здаралася якую-небудзь пісаць паперку ў воласьць, ды няумелі папольску, можна было напісаць пабеларуску і войт усё роўна браў яе ў рукі, чытаў і разьбіраўся. А цяпер зусім справа пастаўлена начай. Калі войт убача, што паперка пісана беларускімі (кірыліцаю) літарамі, дык ня хоча і ў рукі браць; кажа, што яму прыказана з такімі паперкамі не разьбірацца, а толькі з такімі, якія напісаны папольску, ці пабеларуску лацінкаю.—Гэта значыцца, што кожны, убачыўшы такую справу, павінен будзе вучыцца папольску чытаць і пісаць.

Мы даведаліся ад п. павятовага школьнага інспэктара, што ніякіх школ, апрача польскіх, у Валожынскім павеце, ня будзе. І калі ў гутарцы з п. інспэктарам іншыя беларускія вучыцялі казалі, што няма ведама, ці пойдуць дзеці ў польскія школы, дык на гэта п. інспэктар адказаваў, што там, гдзе насяленьне праваслаўнае, будзе выкладацца некалькі лекцыяў у тыдзень расейскае мовы, але не беларускае.

Заўсёды мы мелі надзею на сваіх вучыцялёў, якія многа могуць памагчы бараніць нам сваю нацыю і культуру. Але, дзякуючы таму, што п. інспэктар ім абяцае даць цукер, рыжовую кашу і маркі, яны рыхтуюцца ехаць у Кракаў на якіясь, адумысьля выдуманыя палякамі, курсы. Курсы гэтыя адбываюцца ня з мэтай даць навуковае прыгатаваньне беларускім вучыцялём, а з мэтай адарваць іх ад беларускае працы.

Бо пачынаецца-ж школьны год, трэба лічыцца з беларускімі вучыцялямі і даць ім школы ў іх роднай мове, а гэта польскай адміністрацыі вельмі недасмаку. Дык вось яны і нешкадуюць для іх ні марак, ні ласкавых слоў на гэты час, толькі, думаюць, едзьце і не прашкаджайце нам дабівацца свае мэты апалячаваць беларусоў. А нашы вучыцялі думаюць, што яны ашукаюць палякоў, дастаўшы ад іх у Кракаве цукер, рыжовую кашу, ды грошы. Не, грамадзяне вучыцялі, мусіць палякі за вас трошкі хітрэйшыя і ведаюць за што яны вам даюць маркі. Вы павінны добра памятаць, што выяжджаючы ў Кракаў, вельмі псуіцё грунт беларускае справы, бяз вас ніхто ня можа сказаць палякам, чаму ў Валожынскім павеце няма беларускіх школ. Бо ведама п. інспэктар на гэта адкажа, што беларускія школы не забаронены, але няма каму пабеларуску вучыць, што ўсе беларускія вучыцялі хочуць дастаць польскія школы, а дзеля гэтага паехалі ў Кракаў на курсы.

Дык сорам усім тым беларускім вучыцялём, перад грамадзянамі, якія адважацца прадаваць сваю нацыю і культуру. І калі вы хочаце быць сынамі Беларусі, дык ня гэтак-жа трэба будаваць сваю Бацькаўшчыну.

**Грамадзянін В.**

### Голад паміж беларускіх уцекачоў.

**Навагрудак.**

У павет варочаецца з Расеі шмат беларускіх уцекачоў. Варочаюцца яны бяз нічога. Дома таксама нічога не застаюць, навет будоўлі ўсе папалены, адступаючымі калісь маскоўцамі. Нягледзячы на тое, што галодныя ўцекачы цяпер улетку знаходзяць некаторы заробак, працуючы на полі ў сваіх шчасьлівейшых суседзяў, сьмерць ужо часта здараецца з голаду. Малыя, па некалькі гадоў, дзеці ўцекачоў, усе жабруюць. Страшна жудасны абраз!

**Саколка.**

Варочаюцца з Расеі масамі уцекачы — праваслаўныя беларусы. Можна бачыць, як гэтыя бедныя людзі валяюцца па ўсіх станцыях. Дома гэтых людзей жджэ галодная сьмерць, бо ад гаспадаркі нічагусенькі не засталося. Трудна нат' пазнаць, дзе была сяліба. Калі з тых уцекачоў, якія прыехалі раней, ня менш як траціна вымерла з голаду, дык што-ж казань аб гэтых, якія ў дарозе ўсё прадалі, каб толькі выжыць. Бяз помачы гэтыя масы людзей узімку засуджаны на галодную сьмерць.

(„Р. С.")

## Крутня-мутня школьных інспэктароў.

**Валожынскі школьны інспэктар.**

**М. Валожын,** Навагрудзкага ваяводзтва. Ня можна на'т сабе прадставіць таго, што робіць валожынскі школьны інспэктар у барацьбе з беларускімі школамі. Гэты чалавек дзеля зьдзеку над беларускімі школамі і забіцьця іх ня грэбуе самымі нізкімі нягоднымі спосабамі. Пан інспэктар ня брыдзіцца ні брахнёю, ні маною, ні пастрашаньнямі, ні спадманам, нічым—для яго ўсё добра, каб задушыць беларускія школы ў Валожынскім павеце. Мы вінавацім школьнага інспэктара Валожынскага павету ў ніжэйпаказаных праступленьнях і дамагаемся ад польскае ўлады сьледства і пакараньня.

1) Пан інспэктар фальшыва, ня маючы на гэта ніякага права, заяўляе беларускім вучыцялём і інш., што беларускія школы ў Валожынскім павеце забаронены, значыцца забаронена як вучыць у вадчыненых школах, так і адчыняць новыя. Польскі Сойм і Урад гэткага закону і загаду ня выдалі, дык значыцца гэта мана польскага ўрадніка, пастаўленага шырыць прасьвету бяз розьніцы нацыянальнасьці.

2) П. інспэктар заявіў, што могуць быць толькі прыватныя беларускія школы і што ў гэнакіх школах маюць права вучыць беларускія вучыцялі, якія маюць званьне вучыцеля. Калі-ж з многіх мясцовасьцяў пачалі прасіць у інспэктара дазваленьня адчыніць беларускія прыватныя школы і шмат зьявілася беларускіх вучыцялёў, маючых званьне вучыцеля, якія хацелі вучыць у беларускіх прыватных школах п. інспэктар заявіў, што маюць права толькі тыя вучыць у прыватных школах, якія скончылі ня менш 6 кл. сярэдняе школы. Калі-ж зьяўляюцца вучыцялі з 6 клясамі і вышэйшай адукацыяй, то ім школьны інспэктар катэгорычна заяўляе, што і прыватныя беларускія школы забаронены.

Адначасна п. інспэктар прапануе беларускім вучыцялём, бяз розьніцы адукацыі, згадзіцца быць вучыцялямі ў польскіх школах. Каб напалохаць, стэрорызаваць беларускае вучыцельства п. інспэктар заяўляе, што ўсюды, дзе былі беларускія школы, там цяпер адчынены школы польскія і прапануе беларускім вучыцялём вучыць у гэных польскіх школах, абяцаючы дазволіць ад чатырох да шасьцёх гадзін у тыдзень мець беларускіх. Запраўды-ж вышла-б так, што беларускія вучыцялі паадчынялі-б польскія школы, ў якіх, каб прыцягнуць беларускіх дзяцей, часова ім дазволена было-б вучыць самым і мець гэныя некалькі беларускіх гадзін у тыдзень.

Гэты-ж самы інспэктар у польскія школы назначае вучыцялёў з надта малою адукацыяй. Гэтак, у вёску Сакаўшчыну, Вішнеўскае вол. назначаны Гардынец, што скончыў толькі 2 (дзьве) клясы вышэйшае пачаткавае школы, у м. Вішневе кіраўніком школы назначаны Зара, што скончыў толькі 4 клясы вышэйшае пачаткавае школы, у в. Ігнацова, Вішнеўскае вол. назначана вучыцелька даяўчына з хатняй адукацыяй, у вадну з школ Бакшчанскае воласьці назначаны Кулак з двукляснай адукацыяй.

Ня трэ на'т ужо казаць, што інспэктар нягодна і брыдка абражае беларусоў, умаўляючы ўсім (у тэй лічбе і вучыцялём) кінуць «chamski język» і гарнуцца да «культурнага» польскага. Прыкл., вуч. Алене Карнаух інспэктар сказаў «на што было ехаць на chłopskie курсы ў Вільню, калі ў Навагрудзкім ваяводзтве было шмат польскіх курсаў».

Насяленьне вельмі дамагаецца беларускіх школ.

У тых мясцовасьцях, дзе праваслаўнае насяленьне маласьвядомае, каб яно не дамагалася беларускае школы, інспэктар заяўляе, што заместа беларускіх, будуць школы... расейска-польскія. Абяцанкі-цацанкі...

**Я. Вайцяховіч.**

# Беларуская хроніка.

**Лекцыя пабеларуску.**

У нядзелю, 11 верасьня, а 3 гадз. ўдзень у доме віленскіх профэсыянальных саюзаў (Акадэміцкая, 4) грам. Макар Касьцевіч прачытае пабеларуску публічную лекцыю на тэму: „Сіла профэсыянальнага руху ў Нямеччыне".

Тэзісы:

1. Вынятковыя законы проці соцыялістаў.
2. Шпаркасьць росквіту.
3. Унутраная будова вялікага саюзу.
4. Дзейнасьць профэсыянальных арганізацыяў.
5. Міжсаюзныя цэнтры.
6. Профэсыянальная барацьба.
7. Ўзаемная падмога.
8. Агулы профэсыянальнай барацьбы.
9. Слабыя месцы ў нямецкім профэсыянальным руху.

**Ў Беларускай Гімназіі.**

Уступныя экзамэны ў 1-ай Віл. Белар. Гімназіі ўчора скончыліся. Некаторы рэмонт будынку Гімназіі пазволіць пачаць заняткі толькі з 15 гэтага верасьня.

Дзеля таго, што выкладаньне ўва ўсіх клясах у бягучым школьным годзе будзе адбывацца ў беларускай мове, вучыцялі не ўладаючыя гэтаю моваю муселі падацца ў адстаўку, а на іх месца паступілі адпаведныя кандыдаты.

Беларуская Школьная Рада зацьвярдзіла, выбраных Пэдагогічнаю Радаю Гімназіі, дырэктара М. Кахановіча і сэкрэтара кс. Станкевіча.

**Беларускі концэрт.**

У сераду, 7 верасьня, ў памяшканьні Беларускага Музыкальна - Драматычнага Гуртка (Біскупская, 12) адбыўся концэрт Беларускага Хору пад кіраўніцтвам Згірскага. Хор прапяяў шмат народных і мастацкіх беларускіх сьпеваў.

Апрача гэтага выступала солё панна Русецкая (сопрано).

**Пэдагогічныя курсы.**

Як мы даведаліся, ў Вільні маюць залажыцца Беларускія Пэдагогічныя курсы. Арганізацыяй курсаў ведае грам. С. Рак-Міхайлоўскі.

**Т-ва Беларускае Школы.**

У сераду, 7 верасьня, адбыўся сход Управы Т-ва Беларускае Школы. Прыняты пастановы, каб вясьці змаганьне з проціберускаю школьнаю палітыкаю на мясцох.

## Віленская біржа.

За 7 верасьня 1921 г.

| | |
|---|---|
| Царскія 500 р. (за 100 р.) . . | 230 п. м. |
| „ 100 р. . . . . . . . . | 470 „ |
| „ дробныя . . . . . . . | — |
| Думскія 1000 р. . . . . . . | 60 „ |
| „ 250 р. . . . . . . | 30 „ |
| Керэнкі . . . . . . . . . | 15 „ |
| Даляры . . . . . . . . . . | 3750 „ |
| Франкі . . . . . . . . . . | 290 „ |
| Фунты штэрлінгаў . . . . . | 14500 „ |
| Ост.-маркі (1000) . . . . . . | 41.50 „ |
| Нямецк. маркі (1000) . . . . | 42.50 „ |
| 10 руб. золатам . . . . . . . . | 17400 „ |
| 1 „ серабр. . . . . . . . | 775 „ |
| 1 „ дробнымі . . . . . . . | 350 „ |



Друкарня „Віленскага Выдавецтва" Б. А. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец **ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.**